## У МАГІЛЁВЕ ЎЛАДАЛЬНІК КАЗІНО АСУДЖАНЫ НА 13 ГАДОЎ ЗНЯВОЛЕННЯ

**Судовая калегія Магілёўскага абласнога суда пакінула ў сіле прыгавор грамадзяніну Арменіі, які абвінавачваецца ў крадзяжах з замежных банкаўскіх рахункаў 1,2 млрд. рублёў пры дапамозе падробленых плацежных картак.**

У снежні 2014 года стала вядома пра арышт у Магілёве 38-гадовага ўладальніка брэсцкага казіно «Завіруха», выхадца Арменіі, які планаваў набыць магілёўскае казіно «Ва-банк». Ён абвінавачваўся ў крадзяжы грашовых сродкаў у асабліва буйным памеры з выкарыстаннем падробленых банкаўскіх плацежных картак. Як высветлілі следчыя, бізнесмен учыніў больш як 500 незаконных транзакцый са студзеня па красавік 2014 года.



Расследаванне было завершана ў сакавіку 2015 года. Як паведамілі БелаПАН у Магілёўскім абласным судзе, суд Ленінскага раёна Магілёва ўстанавіў, што абвінавачваны набыў падробленыя банкаўскія плацежныя карткі, па якіх ажыццявіў незаконны пералік грашовых сродкаў з рахункаў замежных банкаў (ЗША, Кітая, Бразіліі і іншых) на разліковы рахунак свайго казіно.

«Пасля абвінавачваны пры ажыццяўленні здзелкі куплі-продажы аднаго з казіно ў Магілёве ў лік яго кошту аналагічным чынам ажыццявіў пералік грашовых сродкаў у якасці папярэдняй аплаты на рахунак яго ўладальніка», - паведамілі ў судзе, адзначыўшы, што ўсе транзакцыі, учыненыя абвінавачваным у Брэсце і Магілёве, у наступным былі прызнаныя банкамі - эмітэнтамі картак махлярствам.

З мэтай утойвання крадзяжоў абвінавачваны ўнёс заведама лжывую інфармацыю ў камп'ютарную касавую сістэму аб куплі фішак і ўводу іх у абарот казіно. Для гэтага ім была мадыфікаваная камп'ютарная інфармацыя па вядзенні ўліку даходаў ад ігральнага бізнесу.

Раённы суд прыгаварыў абвінавачванага да 13 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем на пяць гадоў права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў.

У лістападзе калегія Магілёўскага аблсуда адхіліла скаргу абвінавачванага, пакінуўшы прыгавор без змянення.

## ПОМНІК ПАЛАЧАМ І НАШЧАДКАМ НКВД ХОЧУЦЬ ПАСТАВІЦЬ У МАГІЛЁВЕ

**Памятны знак «в честь чекистов Могилевщины», верагодна, ўсталююць каля будынку КДБ у снежні.**

Пра ўсталяванне памятнага знаку распавяла начальнік упраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі гарвыканкама Іна Караткевіч. Паводле яе, ідэя ўсталяваць знак паўстала каля года таму, ініцыятарам выступіла ўпраўленне Камітэта дзяржаўнай бяспекі па вобласці. Ствараў аб'ект магілёўскі скульптар Карней Аляксееў.

Што будзе ўяўляць з сябе памятны знак, пакуль застаецца ў сакрэце. Аднак вядома, што на ім будзе карта Магілёўшчыны. Папярэдне ўрачыстая цырымонія адкрыцця прызначаная на 18 снежня, паведамляецца на сайце Магілёўскага аблвыканкама.

Па дайшоўных да актывістаў праваабарончага руху Магілёва звестках, гэта будзе вялізная пліта ў тры з паловай метры ў выглядзе карты Магілёўшчыны, якая паўстане на гранітным пастаменце. На ёй будуць адлюстраваныя этапы развіцця чэкісцкай службы і сённяшняя сімволіка КДБ.



Дазнацца, колькі гэта будзе каштаваць бюджэту не атрымалася. На сайце дзяржзакупак icetrade.by сярод закупак упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці не пазначаны ні выраб, ні ўсталяванне падобнай канструкцыі, паведамляе Магілёўскае аддзяленне праваабарончага цэнтру «Вясна».

НАШ МАГІЛЁЎ
http://gazetanm.eu
№88
Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com
Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда
Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 30 лістапада 2015 г.

ГРАМАДСТВА

## ГАЛОЎНЫ ЭНЕРГЕТЫК "ЛІФТМАШУ" ПРЫГАВОРАНЫ ДА 8 ГАДОЎ ЗНЯВОЛЕННЯ

**Набыў законную моц прыгавор суда Заводскага раёна Мінска ў дачыненні да былога галоўнага энергетыка ААТ «Магілёўскі завод ліфтавага машынабудавання».**



Як паведамляе УБЭЗ ГУУС Мінгарвыканкама, па рашэнні суда ён прыгавораны да 8 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці (накіравана ў даход дзяржавы), а таксама да пазбаўлення права займаць пэўныя пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў тэрмінам на 5 гадоў. Таксама ён абавязаны выплаціць у даход дзяржавы каля 80 млн. рублёў.

Паводле інфармацыі сталічнай міліцыі, абвінавачваны быў затрыманы пры падтрымцы супрацоўнікаў спецпадраздзялення МУС «Алмаз» у момант атрымання хабару (4.400 долараў ЗША). Пры ажыццяўленні працэдуры дзяржаўнай закупкі з мая 2014 года па сакавік 2015-га на тэрыторыі Магілёва і Мінска ён атрымаў хабар ад прадстаўніка аднаго з прыватных сталічных прадпрыемстваў за спрыяльнае вырашэнне пытанняў па заключэнні дагавора на пастаўку ў адрас завода электратэхнічнай прадукцыі.

Хабар быў перададзены ў некалькі прыёмаў, апошні з якіх і прывёў да крымінальнай адказнасці. Мужчыну затрымалі ў момант чарговай сустрэчы з прадстаўніком пастаўшчыка па вуліцы Ангарскай у Мінску. Гэтам разам яму павінны былі перадаць астатнюю частку хабару - 2.900 долараў ЗША.

Як патлумачыў начальнік УБЭЗ ГУУС Мінгарвыканкама Генадзь Казакевіч, у дачыненні да былога галоўнага энергетыка пракуратурай Заводскага раёна была распачата справа па ч. 2 арт. 430 КК (атрыманне хабару).

Прыгавор не быў абскарджаны і набыў законную моц.

## НА МОГИЛЁВЩИНЕ ПРОДОЛЖАЕТСЯ СНИЖЕНИЕ СРЕДНЕЙ ЗАРПЛАТЫ

**Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в январе-октябре 2015 года составила 5 771,1 тыс. рублей. В том числе в октябре - 5 873,3 тыс. рублей, и уменьшилась по сравнению с сентябрем 2015 г. на 0,6%, или на 33,6 тыс. рублей.**

Реальная зарплата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги, в январе-октябре текущего года по сравнению с аналогичным периодом прошлого, уменьшилась на 4,5%, в октябре по сравнению с сентябрем 2015 г. - на 1,4 %.

В строительной отрасли средняя зарплата составила 7 466,2 тыс. рублей, на транспорте и в связи - 6 972,2 тыс., в промышленности - 6 413,7 тыс. рублей, в сельском хозяйстве и лесном хозяйстве - 4 471,1 тыс., в образовании - 4 695,2 тыс., в том числе учителей - 5 781,5 тыс., профессорско-преподавательского состава - 6 325,3 тыс. рублей. Заработная плата работников здравоохранения в октябре 2015 г. сложилась в размере 5 330,6 тыс. рублей. Средняя заработная плата врачей составила 9 187,3 тыс. рублей, среднего медперсонала - 5 308,4 тыс. рублей, сообщает Главное статистическое управление Могилевской области.

## БОБРУЙСКИЙ СПАСАТЕЛЬ-ВЗЯТОЧНИК ОСУЖДЕН НА 6 ЛЕТ ТЮРЬМЫ

**Бывшего сотрудника Бобруйского горрайотдела по чрезвычайным ситуациям признали виновным во взяточничестве. Подполковника внутренней службы лишили звания, приговорили к 6 годам тюрьмы с конфискацией.**



Осужденный был в составе комиссии по приемке в эксплуатацию жилого дома со встроенными помещениями торговли и обслуживания в Бобруйске, сообщили в областном суде. За подписание акта приемки жилого дома в эксплуатацию он потребовал от руководства фирмы-застройщика взятку в размере 2 тыс. долларов. Такой суммы у них не было, и сотрудник МЧС согласился на тысячу долларов.

Позже обнаружили нарушения, из-за которых нельзя было принимать здание в эксплуатацию. Подполковник согласился закрыть на это глаза и подписать документы за 10 тыс. долларов. В итоге сошлись на восьми. Во время получения взятки сотрудника МЧС взяли с поличным.

Приговор не вступил в законную силу и может быть обжалован.

В ноябре 2014 года из-за взяточничества подполковника уволили начальника Бобруйского ГРОЧС Анатолия Баранова, а также его первого заместителя Алексея Иванова за «невыполнение должностных обязанностей в полном объеме».

## НА МАГІЛЁЎСКІМ МЯСАКАМБІНАЦЕ ВЫЯЎЛЕНЫ НОВЫЯ ФАКТЫ КРАДЗЯЖОЎ

**Следчыя органы завяршылі расследаванне справы старшыні наглядальнага савета ААТ «Магілёўскі мясакамбінат», які абвінавачваецца разам са сваім сынам у крадзяжы прадукцыі прадпрыемства на 600 млн рублёў.**



У ліпені старшыня наглядальнага савета быў западозраны ў крадзяжы прадукцыі мясакамбіната больш чым на 300 млн рублёў. Супрацоўнікі абласнога ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ўстанавілі, што службовая асоба ўчыняла крадзяжы мясной прадукцыі, якую затым рэалізоўвала пры ўдзеле свайго сына на тэрыторыі Расіі. Матэрыялы праверкі былі перададзеныя ў Следчы камітэт, які распачаў справу аб асабліва буйных крадзяжах, паведамляе БелаПАН.

Следствам ўстаноўлена, што службовая асоба з мэтай атрымання матэрыяльнай выгады давала ўказанні падначаленым работнікам каўбасна-кулінарнага цэху, якія не ведалі аб злачынстве, выраблядь дарагую мясную прадукцыю і ўпакоўваць яе з нанясеннем этыкетак, якія ўтрымлівалі звесткі аб больш таннай мясной прадукцыі.

Пасля старшыня наглядальнага савета забяспечваў афармленне таварна-транспартных накладных на водпуск таннай прадукцыі з дастаўкай у складскія памяшканні фірменных магазінаў камбіната без выкладкі тавару на паліцы. Затым паведамляў сыну, у якім магазіне знаходзіцца прадукцыя. Для надання законнасці злачынным дзеянням сын уносіў у касу магазіна грашовыя сродкі за набыццё таннай мясной прадукцыі, атрымліваў жа са склада дастаўленую дарагую.

Маючы на руках таварны чэк, бацька і сын вывозілі і рэалізоўвалі прадукцыю за наяўны разлік як на тэрыторыі Беларусі, так і Расіі. Са снежня 2014 года па май 2015-га Магілёўскаму мясакамбінату быў прычынены ўрон на 600 млн рублёў.

У ходзе следства абвінавачваныя актыўна садзейнічалі кампенсаванню ўрону і добраахвотна пагасілі прычынены прадпрыемству ўрон у поўным аб'ёме. На маёмасць групы накладзены арышт на суму каля 2 млрд рублёў, паведамляе Ўпраўленне Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці.

Абвінавачанне вынесена па ч. 4 арт. 210 Крымінальнага кодэкса (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, учынены групай асоб, у асабліва буйным памеры). Цяпер бацька і сын знаходзяцца пад вартай. Крымінальная справа з органаў следства перададзена пракурору для накіравання ў суд.



## ДЗМІТРЫЙ МІНЕНКОЎ – АРГАНІЗАТАР БУЙНЕЙШАЙ У КРАІНЕ “КАРОВІНАЙ АФЁРЫ”

**У снежні 2014 года да 14 гадоў пазбаўлення волі быў асуджаны першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама Дзмітрый Міненкоў. Менавіта ён, як палічыў Ленінскі суд Магілёва, быў найбольш вінаваты ў тым, што закупленыя за грошы шклоўскіх сельскіх гаспадарак каровы ў Сербіі так і не даехалі на сваю новую ўсходне-славянскую радзіму.**



Нягледзячы на тое, што “шклоўская каровіна афёра” была справай больш чым значнай у масштабах усёй Беларусі, асаблівага рэзананса яна не выклікала. Хаця ў незалежных СМІ пра яе пісалі. Сутнасць афёры заключалася ў тым, што з гаспадарак Шклоўскага раёна прыватная магілёўская кампанія “Ост-імпарт” сабрала каля 5 млн долараў для таго, каб набыць у Сербіі племянных кароў. Выбіраць кароў разам з камерсантамі ў залітую сонцам і цікавай гісторыяй братнюю славянскую краіну направіліся не апошнія пры магілёўскай уладзе людзі, распавёў “Ежедневнику” былы старшыня савета дырэктараў расійскага ЗАТ “Агромед” Васіль Секрієру. Сярод іх быў і тагачасны намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкамам Анатоль Ісачанка, які цяпер узначальвае Магілёўскі абласвет і праславіўся нецярпімасцю да незалежных журналістаў, намеснік начальніка аддзела ветэрынарыі абсельгасхарчу Аляксандр Харчанка, генеральны дырэктар Магілёўскага дзяржплемпрадпрыемства Міхаіл Храмчанка.

“В 2010 году первый заместитель председателя Шкловского райисполкома, превышая служебные полномочия, дал незаконные указания семи сельхозпредприятиям района на заключение контрактов с могилёвской компанией «Ост-импорт» на приобретение крупного рогатого скота из Сербии на условиях 100-процентной предоплаты. По контрактам была перечислена сумма, эквивалентная 5 миллионам долларов», - распавёў у снежні ў эфіры ОНТ начальнік УБЭЗ УУС Магілёўскага аблвыканкама Дзмітрый Шчадракоў, адзначыўшы, што такую справу Міненкоў рабіў за атрыманы хабар у памеры больш за 20 тыс. долараў.

Чаму каровы не паступілі ў Шклоўскі раён, дакладна не вядома. Расійскія пасрэднікі - “Агромед”, якія дамаўляліся з “Ост-імпартам”, што вывезуць кароў з Сербіі, кажуць, што кароў не хацелі забіраць беларусы – як камерсанты, так і ўлады.

«Если б мы не захотели забрать, мы б уже сидели», - заявіў у сваю чаргу “Ежедневнику” ў чэрвені 2012 года старшыня Шклоўскага райвыканкама Аляксандр Байко. Праз два з паловай гады ягоны першы намеснік і быў асуджаны на 14 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.



Ва ўсёй гэтай гісторыі не хапае тлумачэнняў аднаго боку, а менавіта - сербскага. Магчыма, нашы паўднёва-славянскія браты маглі б распавесці, як вяліся ў іх справы з калякароўнымі беларусамі.

Што ж тычыцца Міненкова, то цяжка паверыць, што ва ўсёй гэтай схеме ён адзіны з прадстаўнікоў улады меў дачыненне да псеўдапаставак рагатай жывёлы. На сумнеў, у прыватнасці, наводзіць як даволі вялікі тэрмін зняволення (каб надоўга замаўчаў?), які далі першаму намесніку раённага кіраўніка, так і тое, што іншымі сядзельцамі сталі толькі “Ост-імпартаўцы”.

# ПЁТР МИГУРСКИЙ: КОРРУПЦИЯ СРЕДИ ЧИНОВНИКОВ ИМЕЕТ РЕГИОНАЛЬНЫЕ ОСОБЕННОСТИ

**Коррупция является одним из ключевых факторов, сдерживающим развитие любого государства, в том числе и на региональном уровне. Проникая в различные сферы жизнедеятельности общества, она искажает экономическую политику и стратегию развития страны, ведёт к хищению государственной собственности, нанося колоссальный урон обществу и государству. Опасность коррупции состоит также и в том, что она выступает катализатором организованной преступности. Злоупотребляя своими должностными полномочиями, работник органов власти способствует финансированию преступных организаций, что представляет серьёзную опасность для государства зарождающейся демократии.**



Пётр Мігурскі - эксперт

Главное условие для коррупции, которое объединяет все регионы и отрасли экономики, одно – это государственная собственность, которую обслуживают разные управляющие организации и учреждения с многочисленным отрядом чиновников. Именно чиновник, распоряжающийся государственным имуществом, оказывается наиболее восприимчивым к соблазнам воровства и взяточничества. Наилучшие условия к тому создаёт специфическое соотношение прав владения ресурсами и ответственности за эффективность их распоряжения, характерное сегодня для функций работников исполнительной власти.

Фактически уровень коррупции в стране определяет степень безнаказанности таких чиновников за преступления экономического характера. Таким образом, не низкий уровень заработной платы чиновников или особенности финансирования государственных проектов, а увеличение полномочий исполнительной «вертикали» является стимулятором роста коррупции. В Беларуси коррупция фактически основана на законе, что способствует её возникновению и развитию на всех уровнях власти.

Законы в Беларуси, продуцируемые чиновниками вертикали и содержащие неопределенные и трудновыполнимые требования к гражданам и организациям, фактически превратились в коррупционный фактор.

Исходя из динамики коррупционных преступлений в Могилёвской области, проблема борьбы с коррупцией, по словам начальника отдела прокуратуры области Андрея Волкова, приобретает всё большую актуальность. Именно всё возрастающим уровнем коррупции среди чиновников и провалами в подборе руководящих кадров объясняется плачевная ситуация в экономике Могилёвщины.

В отчётах руководителей области наиболее коррумпированными сферами и отраслями представляются торговля, промышленность, строительство, образование и здравоохранение, агропромышленный комплекс. В тоже время 35% коррупционных преступлений — это преступления, «сотворённые» местной властью и подчинёнными ей структурами. Более того, прокуратура области отмечает негативную тенденцию к росту коррупционных преступлений именно в сфере государственного управления. Действительно, взятками и незаслуженными подарками не брезгуют как руководители, так и простые исполнители государственных структур различной направленности. Но чаще всего коррупцию связывают, прежде всего, с руководящим составом. У них и полномочий больше (а, следовательно, и возможностей для получения взяток), и величина этих взяток несоизмеримо больше, чем у простых государственных служащих.

Высокая степень латентности экономических преступлений не позволяет на основании статистических данных правоохранительных органов дать объективную оценку состоянию, сопряженному с коррупцией. Тем не менее, данные табл.1 говорят, что наиболее часто коррупция в Могилёвской области проявляется во взяточничестве и хищениях собственности.

В тоже время, хотя взятки и составляют основную долю коррупционных преступлений, выявить их довольно сложно, а принимаемые уголовно-правовые, административные и профилактические меры остаются малоэффективными. Дело в том, что взятка – это специфическое преступление, оба участника которого – взяткодатель и взяткополучатель – заинтересованы в обеспечении глубочайшей тайны происходящего между ними сговора, жертвой которого чаще всего является не конкретное физическое лицо, а отчуждённое государство и абстрактное общество. По этой причине раскрываемость фактов коррупции не может быть высокой, ибо ущерб потерпевшей стороны, как правило, обезличен и опосредован во времени. Уголовно наказуемой оказывается лишь мизерная часть подобных преступлений, да и то лишь в том случае, если одна из



сторон нарушила договоренность или же превысила нормы допустимых притязаний.

Тем не менее, в течение последних 5 лет Могилевская область, наряду с Гомельской, является лидером по количеству взяток в республике. Только за последние годы к уголовной ответственности за преступления коррупционного характера привлечён ряд высокопоставленных чиновников местных органов исполнительной власти:

- в 2011 году на 4 года осуждён руководитель администрации Октябрьского района Евгений Лебедев;
- в 2012 году на 3 года осужден заместитель председателя Могилёвского горисполкома Владимир Титок;
- в 2014 году 5 лет колонии усиленного режима с конфискацией имущества получил бывший зампредседателя Быховского райисполкома Игорь Скалубо; бывший первый зампред Шкловского райисполкома Дмитрий Миненков осуждён на 14 лет колонии усиленного режима;
- в 2015 году осужден на 3 года с конфискацией имущества бывший заместитель председателя Шкловского райисполкома Евгений Семенкевич; взяты под стражу начальник управления торговли и услуг и его заместитель Бобруйского горисполкома; возбуждено уголовное дело против чиновника Могилёвского облисполкома по поводу растраты государственных денег в размере 30 млн. руб. при поездке на отдых в Марокко; взята под стражу по обвинению во взятках глава Кричевского управления «Могилёвоблресурсов» - с декабря 2013-го по май 2015 года руководитель получила более 60 млн рублей. Ее действия квалифицированы по ч. 2. ст. 430 (Получение взятки в крупном размере).

Коррупция – универсальная проблема, но коррупция в Беларуси является результатом той социальной модели, которая у нас сложилась. Командно-административная система управления государством и встроенная в неё «вертикаль» исполнительной власти является главным мотиватором коррупционных преступлений и не может эффективно с ней бороться в рамках данной модели.

Следует отметить, что на региональном уровне население терпимо относится к коррупции в силу крайне слабого осознания её негативных последствий для общества. В тоже время, коррупционные преступления на региональном уровне имеют ряд особенностей, на которые следует обратить внимание.

Прежде всего, следует отметить, что участники коррупционных отношений являются частью одной иерархической цепочки, которой присуще нарастание объёмов и разнообразия методов присвоения государственной собственности с переходом на более высокий уровень власти. При этом, если на уровне сельского Совета коррупция в большинстве случаев носит бытовой характер (выделение земельных участков, получение отдельных видов справок), с районного уровня активизируется деловая коррупция – неформальные платежи при возникновении взаимодействия власти и бизнеса и присвоение государственных средств (финансовые ресурсы на реализацию государственных программ, инвестиции в промышленные и социальные объекты). В 2015 году, в частности, за нарушение земельного законодательства отстранена от работы председатель Полыковичского сельсовета Могилевского района Ольга Кожева.

На районном уровне ещё в большей степени проявляется бытовая коррупция: оформление на пенсию, лоббирование бизнеса, коммерческий интерес чиновника, непривлечение к ответственности нарушителя закона.

На областном уровне превалирует административная коррупция: намеренное внесение чиновниками искажений в процесс предписанного исполнения существующих законов и правил с целью предоставления преимуществ и льгот заинтересованным лицам. Дальнейшее развитие получает деловая коррупция.

Пассивность местных властей в борьбе с коррупцией, вместо постоянной целенаправленной работы, прямым следствием которой являются разные подходы к фигурантам экономических преступлений. При этом, мобилизация ресурсов для борьбы с коррупцией приобретает авральный характер, что заметно снижает её качество и неизбежно ведёт к ошибкам. В итоге, имеющийся потенциал в сфере предупреждения коррупции используется недостаточно эффективно, а проводимая работа не в полной мере отвечает требованиям сегодняшнего дня.

Бессистемность в работе и фактическое отсутствие взаимодействия государственных органов власти с общественными формированиями и гражданами в вопросах предотвращения коррупционных преступлений, игнорирование сигналов о фактах присвоения государственного имущества ведёт к снижению общественной заинтересованности в борьбе с коррупцией и к возрастанию недоверия к чиновникам.

**Продолжение на стр.7**

Корпоративность, или круговая порука местных чиновников, в оценке социально-экономической ситуации в регионе, провоцирующей приписки и иные нарушения законодательства. В этом русле – отсутствие надлежащего подбора и расстановки кадров, детального изучения морально-деловых и личностных качеств работников, покровительство. В массовом порядке мы наблюдаем в Могилёвской области горизонтальные передвижения должностных лиц, в частности, бывшие председатели колхозов становятся председателями сельских советов. Есть случаи, в Могилёвском и Шкловском районах, когда в аппарате райисполкома работают ранее судимые чиновники. В Шкловском райисполкоме Михаил Павлович занимал должность председателя райсовета при непогашенной судимости, сейчас работает заместителем председателя райисполкома. Многие жители задаются вопросом - неужели без уголовников во власти этой власти не обойтись?

Не управляет данной ситуацией помощник Президента Республики Беларусь, главный инспектор по Могилевской области Геннадий Лавренков, который отвечает в области за кадровую работу. Более того, не без помощи вышестоящих чиновников избежал наказания один из бывших руководителей Шкловского ЖКХ, присвоивший более 500 млн. рублей бюджетных денег.

Характерным в этом плане является и замалчивание фактов коррупции, в которой замешаны местные чиновники. Например, на координационном совещании по борьбе с преступностью и коррупцией при прокуроре Шкловского района ещё в ноябре 2014 г. были озвучены ряд фактов нарушений соответствующего Закона Республики Беларусь. Так вот, прокурорские проверки показали, что наиболее коррумпированы в районе система образования и организации, подчинённые концерну «Беллесбумпром». В тоже время, преступные деяния чиновников из райисполкома, в частности, бывшей управляющей делами Людмилы Гляковой, не озвучивались.

Отсутствие должной координации работы всех правоохранительных ведомств в вопросах противодействия коррупции со стороны прокуратуры, порождающей низкий уровень взаимодействия среди правоохранительных органов. Отмечаются факты недоверия руководства силовых ведомств местным правоохранительным органам. Во всяком случае, задержание зампредседателя Шкловского райисполкома Евгения Семенкевича проводили минские «силовики», расследование его преступных деяний также не доверили местной прокуратуре.

Отмечается низкий уровень аналитической работы правоохранительных органов, отсутствие чётких критериев оценки эффективности борьбы с коррупцией, что в определённой степени влияет на её эффективность.

Период создания коррупционных связей, который на районном уровне составляет примерно 2 года, в течение которого идёт селекция всех без исключения чиновников – от председателя райисполкома до председателя сельсовета. Ряд коррупционных скандалов в Шкловском районе подтверждают данное наблюдение – все осужденные чиновники проработали на своих должностях около 2 лет, прежде чем решились на присвоение крупных сумм денег. Снижение показателей района по инвестициям, сельскохозяйственному производству в предыдущие годы указывает на переориентацию внимания районного руководства только на определённые результаты, интересные личной выгодой. Не этим ли объясняется факт руководства Шкловским ЖКХ в течение нескольких лет судимыми чиновниками?

Особенностью коррупции на региональном уровне является большая разбежка в размерах воровства чиновниками и простыми работниками бюджетных организаций. Чиновник ворует миллиарды (бывший зампредседателя Шкловского района Дмитрий Миненков пытался уворовать 4,2 млн. евро), «рядовой» взяточник довольствуется недорогими подарками и взятками в 20-30 долларов США - как правило, это работники сельских советов, образования и здравоохранения.

Трансформация коррупционной практики с высших эшелонов власти на местный уровень. Характерный пример: бывший генеральный прокурор страны Григорий Василевич живет в коттедже за 1,5 млн. долларов США. Выходцы из Могилевской области: бывшая управляющая Национальным банком РБ Надежда Ермакова и председатель правления ЗАО «Второй национальный телеканал» Григорий Кисель также проживают в дорогостоящих особняках, построить которые за свой счёт невозможно. Практически все высокопоставленные чиновники имеют жилье, владение которым рядовому работнику белорусского предприятия не под силу.

Естественным образом, чиновники областного и районного уровней на местах изыскивают возможности личного обогащения. Только за последние годы выявлены факты использования служебного положения в решении квартирных вопросов в Могилёвском горисполкоме и два факта в Шкловском райисполкоме.

«Вертикальщики», призванные на борьбу с коррупцией, активно используют занимаемые должности для улучшения материального положения – сегодня практически все уголовные преступления, совершённые местными чиновниками, относятся к разряду экономических. К слову, народ не очень верит в альтруизм и иные благородные намерения чиновников – местные борцы с коррупцией истинную коррупцию как раз и не замечают.

Анализ типичных коррупционных схем показывает, что стремление должностного лица извлечь выгоду от служебного положения обусловлено такими побуждениями, как избежание материальных затрат, желание приукрасить действительное положение и скрыть при этом свою некомпетентность. Учитывая актуальность коррупции, обществу необходимо принимать меры не только к изобличению преступников, но и направлять усилия на устранение причин и условий, способствующих этим преступлениям.



## В МОГИЛЕВСКОМ СПОРТКЛУБЕ «СПАРТАК» ВЫЯВЛЕНЫ МНОГОМИЛЛИАРДНЫЕ ХИЩЕНИЯ

**В хищениях заподозрены три сотрудницы централизованной бухгалтерии Могилевского областного спортивного клуба «Спартак» Федерации профсоюзов Беларуси (ФПБ).**



Проверку бухгалтерских документов клуба первоначально провел Комитет государственной безопасности, который выявил факт хищения и возбудил дело в отношении сотрудниц по статье 210 Уголовного кодекса (хищение путем злоупотребления служебным положением), сообщил официальный представитель УСК по Могилевской области Оксана Соленюк. Затем дело было передано в Следственный комитет. Кроме того, в настоящий момент контрольно-ревизионное управление Могилевского облисполкома проводит ревизию финансовых и других документов клуба, которые изъяты для установления точных сумм хищений.

«По результатам ревизии будет установлена сумма хищений и будет принято процессуальное решение», - сказала Соленюк.

Ущерб спортклубу «Спартак» составляет более 4 млрд. рублей, сообщила 24 ноября в суде Ленинского района Могилева представитель спортклуба ФПБ из Минска Екатерина Сенкевич. Однако, по ее словам, не исключено, что по итогам ревизии ущерб окажется на уровне 7-8 млрд. рублей. Все три фигурантки уголовного дела уже уволены из бухгалтерии спортклуба.

В настоящее время суд Ленинского района Могилева рассматривает иск о восстановлении на работе бывшего директора детско-юношеской спортивной школы «Спартак-35» Александра Зайцева, которого бывший работодатель - областной спортклуб «Спартак» ФПБ - обвинил в грубых нарушениях трудовых обязанностей, повлекших причинение материального ущерба.

Зайцев отрицает какую-либо причастность к бухгалтерским нарушениям и требует восстановить его на работе в должности директора.

## ЧАТЫРЫ ДЫРЭКТАРЫ СПАРТОВЫХ ШКОЛ ЗВОЛЬНЕНЫ Ў МАГІЛЁВЕ

**Кіраўніцтва Магілёўскага абласнога спартыўнага клуба «Спартак» Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ) звольніла чатырох дырэктараў гарадскіх спартыўных школ, убачыўшы ў іх дзеяннях нанясенне матэрыяльнага ўрону.**

У лістападзе 2014 года бухгалтэрыю клуба праверыў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Былі ўскрытыя фінансавыя злоўжыванні, якія прычынілі ўрон школам клуба на 4 млрд. рублёў. Потым у дачыненні да трох супрацоўніц бухгалтэрыі была распачата справа па арт. 210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовым становішчам). Справа была перададзена ў Следчы камітэт. Акрамя таго, былі звольненыя шэраг дырэктараў дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ горада па абвінавачанні ў нанясенні сваім бяздзеяннем ўрону навучальным установам. Адзін з іх, Аляксандр Зайцаў, не згадзіўся з такой фармулёўкай звальнення і звярнуўся ў суд з іскам аб аднаўленні на працы.

Усяго звольненыя чатыры кіраўнікі спартыўных школ, у тым ліку школы «Спартак-35» (зала боксу на Пажарным) Зайцаў, якія сваім бяздзеяннем зрабілі магчымым фінансаванне фіктыўных спартыўных мерапрыемстваў, адзначыў 30 лістапада на судзе па іску Зайцава намеснік дырэктара спартклуба «Спартак» Максім Малахоўскі.

Аб сямі школах у Магілёве, якія нібыта ўдзельнічалі ў схеме фінансавання фіктыўных спартыўных мерапрыемстваў, заявіла намеснік дырэктара рэспубліканскага спартклуба ФПБ Кацярына Сянкевіч.

У сваю чаргу Зайцаў адмаўляе дачыненне да парушэнняў у працы, якія б нанеслі ўрон школе. Ён сцвярджае, што не падпісваў дакументы, па якіх грошы ішлі на фіктыўныя мерапрыемствы, а таксама не меў доступу да бухгалтарскіх спраў і нават не атрымліваў электроннага ключа. Зайцаў абвінавачвае цэнтралізаваную бухгалтэрыю спартклуба, якая, паводле яго слоў, не была нават падсправаздачная дырэктарам спартшкол, у падмане кіраўнікоў спартыўных навучальных установаў.

На сённяшнім пасяджэнні суда Ленінскага раёна Магілёва пад старшынствам Галіны Кужэлевай было вырашана звярнуцца да незалежнага спецыяліста, здольнага правесці аналіз фінансавых дакументаў, па якіх, як сцвярджаюць прадстаўнікі клуба, нібыта пералічваліся грошы.

Наступнае пасяджэнне суда па справе Зайцава прызначана на 3 снежня.

Адразу пасля звальнення кіраўніцтва клуба працаўладкавала Зайцава ў тую ж спартыўную школу «Спартак-35» на пасаду трэнера. Аднак былы дырэктар працаваў там толькі два тыдні. Свой другі сыход ён тлумачыць немагчымасцю працаваць з ранейшым кіраўніцтвам, якое абвінавацiла яго ў нанясенні ўрону.